Год выдавецтва II. ЦАНА НУМАРУ 30 гр.

# ПРАВАСЛАЎНАЯ БЕЛАРУСЬ

Царкоўна-грамадская і палітычная часопісь.
(Орган Праваслаўнага Беларускага Дэмократычнага Аб'яднаньня).
(Выходзіць 3 разы ў месяц).

№ 4 (10) | 10 ЛЮТАГА. | 1928 г.

АДРЭС РЭДАКЦЫІ: Вільня, Гэтманская вуліца № 4, кв. 16.

ПАДПІСНАЯ ЦАНА: на 1 месяц: 80 гр; на 3 месяца 2 зл. 00 —

ЦАНА АБВЕСТАК: на 1-шай старонцы 30 гр., пасярод тэксту 25 гр., на апошняй старонцы 20 гр, за рад. пэтыта.

## „Блёк Меншасьцяў“ і Блек „спулпрацы з жондам“.

З нашай перадавіцы ў папярэднім нумары „Праваслаўнай Беларусі“ нашы чытачы ўбачылі, што партыя ўрадавых кругоў: „Безпартыйны Блёк спулпрацы з жондам“ (B. B. S. z R.) тут у нас на Беларусі, відаць, уважае наш блёк, „Блёк Нацыянальных Меншасьцяў“ найвялікшым для сябе канкурэнтам. Не дарма наш Блёк аказаўся пад такім моцным абстрэлам. З поваду гэтага мы уважаем за патрэбнае выясьніць у гэтай стацьці нашы погляды на гетае „жандовае страньніцтво“ і нашы да яго адносіны.

Перад усім трэба адзначыць што ў самым выступленьні гэтага „странніцтва“ ужо чуецца нешта антыконстытуцыйнае. У кожай дэмократычнай рэспубліцы грунтоўнай засадай палітычнага жыцьця ёсьць пастулят: крыніцай улады ў рэспубліцы зьяўляецца сам народ, — „Вярхоўная ўлада ў Польскай Рэспубліцы належыць да народу“, як гаворыцца ў Польскай Канстытуцыі (арт. 2).

Гэта сваё асноўное рэспубліканскае права, **права на ўладу** кожны рэспубліканскі народ выяўляе

**праз выбары да парлямэнту** (Сойм, Сэнат). Сябры парлямэнту, як выбраныя прадстаўнікі народу, складаюць з сябе вышэйшую **заканадаўчую ўладу**, ад якой залежыць адпаведная перад парлямэнтам **ўлада выканаўчая** (рада міністраў).

Адсюль відаць, што ў рэспубліцы ня **Сойм павінен раўняцца да ўраду, а наадварот,—урад павінен раўняцца да Сойму і Сэнату**,—гэта ёсьць, што ўрад павінен быць такім, які бы адпавядаў трэбаваньням і імкненьням Сойму. Гэта паказывае, што нармальным, паводле канстытуцыі, ёсьць той жонд, які здольны да ,,спулпрацы з Соймам", а ня той Сойм, які паказаў бы сваю здольнасьць да ,,спулпрацы з жондам".

Адсюль відаць, што ў самай сваей аснове, як гавораць, у самым выхадным пункце, ёсьць у гэтай акцыі (,,выбірай Сойм, здольны да „споўпрацы з жондам"?) ёсьць ужо нешта, як мы сказалі, антыканстытуцыйнае.

Прыходзіцца тут напамінаць аб самых прымітыўных (пачатковых) існасьцінах, што **ня народ для ўраду, але урад для народу.** Гэта ўжо ёсьць засада ня толькі для рэпубліканскага строю, але нават і для ўсякай больш-менш цівілізаванай палітычнай арганізацыі.

Праўда і тое, што ў кожнай свабоднай старане, у якой зусім свабодна дазваляецца разьвіцьцё партыйнага палітычнага жыцьця, заўсёды магчыма стварэньне партыі, прыхільнай для данага ўраду, калі там ёсьць пэўная група людзей сучасным урадам задаволеных. Нічога ня было-б дзіўнага і ў тым, каб такая партыя стварылася і ў Польшчы.

Але справа гэта была-б нармарным зьявішчам толькі тады, калі б гэта партыя **паўстала зусім свабодна, зусім незалежна ад ураду, сярод людзей да урада не прычасных і.. на сродкі таксама не ўрадавыя**, а прыватныя

Тым часам у нас як раз усё наадварот. Урад прыймае самае дзеяльнае учасьце ў стварэньні гэтага ўрадавага Блёку (№ 1) большасьць дзеячоў у гэтай партыі— урадоўцы, перадвыбарная агітацыя праводзіцца урадоўцамі,— на ўрадовыя грошы, а кандыдуюць так сама урадоўцы, пачынаючы з міністраў.

Гэта ўжо з'явішча зусім не канстытуцыйнае па самаму духу.

Паны ваяводы і старосты склікаюць да сябе ніжэйшых урадоўцаў, прыказваюць агітаваць за № 1. Гэтыя ўрадоўцы ў свой чарод робяць такі самы націск на ніжэйшых урадоўцаў, на войтаў гмін, — гэтыя на солтыса, і гэтакім парадкам пры помачы пагроз і рэпрэсіяў праводзіцца агітацыя за Блёк ,,спулпрацы з жондам". У некаторых мяйсцох мяйсцовыя ўлады змагаюцца ужыць для гэтага і праваслаўнае духавенства. Старасты склікаюць зьезды благачынных і зварачываюцца да айцоў духоўных з угаворамі, каб яны працавалі на карысць блёку „спулпрацы з жондам". У некаторых мяйсцох гэта не дае рэзультатаў, але там, гдзе духоўные нашы ўжо стварыліся ,,ajentami państwowymi", там і духоўныя (як напрыклад у Беластоку прот. Гушкевіч) пачынаюць агітаваць за партыю ,,спулпрацы з жондам".

Гэта, так сказаць, спосаб безпасярэдняго ўплыву ураду на выбары.

Але ужываецца многа і іншых спосабаў гэтага ўплыву. Галоўнае гэта выдаваньне, вядома за ўрадавыя грошы, масы газэтаў і рознае агітацыйнае літэратуры. У пагоні

за гэтым спосабам уплываў на масы, справа „супрацы з жондам“ даходзе іншы раз да сьмешнага. Напрыклад, як паведамляюць газэты (і радыё-газэта), у Вільні партыя „супрацы з жондам“, каб перацягнуць на свой бок расейцаў, зьбіраецца пад рэдакцыяй адваката Андрэева выдаваць расейскую газэту, ды яшчэ пад якім назовам: — «Россія»! Вось як: адраджэньне і дабро Польшчы ўжо ідзе пад гаслам Расеі! Узапраўды, калі-б пад гэткім назовам пачалі выдаваць газэту іншыя не ўрадавыя і не эміграцкія групы, дык урад бы западозрыў такіх выдаўцоў у **„działanie na korżyść innego państwa“**.

Такая партыйная праца урадоўскіх кругоў, у самым карані не конституцыйная, ёсьць і несправядлівая з маральнага боку. Тыя грошы, на якія утрымліваюцца ўрадоўцы за іх адміністрацыйную і іншую працу, зьбіраюцца **з усяго народа**, а народ складаецца, як ведама, з розных партыяў і групаў, — ня толькі спаўчуючых ураду, але і зусім ня спаўчуючых напрамку яго працы. Адсюль у карані несправядліва, калі за народныя грошы наўперад ужо накідываецца, навязываецца народу такі сойм і такі ўрад, які можа яму і не падабаецца.

Мы стаім на прынцыповым пункце.

Мы ў даным выпадку не гаворым наўперад нічога, ці **сучасны ўрад** ёсьць для народу добры ці не. Гэта павінен зрабіць наступны Сойм, якому ўрад павінен аддаць справаздачу з сваей працы і далажыць аб плянах на далейшую працу («экспозе»). Магло-б стацца так, што будучы сойм і дасьць даверые гэтаму ўраду, як даў яму яго ў свой час Сойм папярэдні. Але мы ведаем, што у далейшай сваей працы, — працы астатняга году, — такім даверыям ён ад Сойму і Сэнату ужо ня карыстаўся, і каб ня атрымаць гэтага недаверыя фармальна, змушаны аказаўся сыстэматычна адсрочываць сэссіі Сойма.

Пры усіх гэтакіх варунках зразумелым ёсьць што гэтае выступленьне ураду з сваей партыей, складаючайся пераважна з урадоўцаў і карыстаючайся з урадавага апарата і средстваў для агітацыі, ня ёсьць згодна, ані з буквай, ані з духам конституцыі.

Справа гэта дужа ясна выясьнена ў стацьці п. Дашынскага, павадыра польскай партыі ПэПэЭс, якая цяпер выступае як апазыцыя да ўраду. Гэтую стацьцю у перакладзе на беларускую мову ў трохі скарочаным відзе мы зьмяшчаем у гэтым нумары.

Як жа мы павінны рэагаваць на гэта антыконстытуцыйнае выступленьне ўрадавых кругоў? Барацьба тут магчыма толькі канстытуцыйным способам, — выясьняць у прасе дух і букву канстытуцыі і не галасаваць за кандыдатаў гэтых урадавых кругоў, а галасаваць толькі за адзіны свой беларускі сьпісак **(№18)**, далучыўшыся да „Блёку нацыянальных меншасьцяў.“ Тады мы будзем мець у Сойме і Сэнаце узапраўды **сваіх** прадстаўнікоў, якія змогуць даць даверые таму ці іншаму ураду, а могуць і не даць яго у залежнасьці ад таго, як гэты урад аднясецца да нашага беларускага народу у абшарах Польскай Рэспублікі.

**В. Васілевіч.**

---

Пашырайце сваю часопісь сярод праваслаўных чытачоў.

# Сумная гадаўшчына.

8-га гэтага лютага скончылася пяць гадоў са дня нябывалага ў жыцьці праваслаўнай Царквы выпадка: забойства мітрапаліта Варшаўскага Георгія праз архімандрыта Смарагда.

Нябывалае тут ня ў асобе забітага, — бо ці мала ёсьць у гісторыі Царквы выпадкаў, калі ня толькі забівалі, але нават і замучывалі праваслаўных архіерэяў, — нябывалае тут ёсьць у тым, што забойцай з'явілася асоба духоўная і пры гэтым ня з ніжэйшага духавенства, ня з ніжэйшых слаёў кліра, а з вышэйшых яго прадстаўнікоў, бо архімандрыт Смарагд — сам чалавек вучоны, былы рэктар сэмінарыі і кандыдат на архіерэйскае мейсца. Ёсьць тут над чым задумацца, — з чаго стаўся гэтакі выпадак?

З якога бы пункту гледжаньня мы ня паглядзелі на гэтую справу, ці з боку афіцыяльнай царкоўнай улады, ці з боку тых царкоўна-грамадзкіх кругоў, да якіх належыў Смарагд, — усё роўна справа сьведчыць аб адным: аб бязумоўна ня нармальным становішчы праваслаўнай царквы ў Польшчы, бо не магчыма і падумаць аб тым каб гэтакае магло-б стварыцца ў нармальных варунках!

5-х гадовы пэрыод, які прайшоў з часу гэтага небывалага выпадку дае нам, здаецца, магчымасьць калі ня зусім, то больш-менш спакойна разабрацца ўва ўсей гэтай справе, каб разважыць яе з царкоўна-грамадзкага пагляду і вывясьці адсюль адпаведныя вывады.

Хто быў прысутным на першым судовым працэсе (16—18 красавіка 1923 г.), на якім разбіралася справа забойства мітрапаліта, той ня можа ня памятаваць таго агульнага ўражаньня, якое ўтварала ўся працэдура судовай расправы. У паказаньнях сьведкаў ня толькі з боку абароны, а нават і з боку абвінаваччаньня, — нідзе ня чулася якога небудзь спаўчуцьця, ці сымпатыі да забітага. Праглядаючы сучасныя газэты, ня можна ня заўважыць, што гэтакае ўражаньне атрымалі ня толькі газэты расейскія, украінскія, ці беларускія, гдзе можна было-б шукаць варожа настроеных да забітага людзей, але нават і газэты польскія. Вось што, напрыклад пісаў тады „Kurjer Polski" (№ 108): „Абаронцаў у забітага, можна сказаць, зусім няма". „І сягодня і ўчора справа йшла так, як быццам гэта быў *працэс процiў забітага.* Мала ёсьць сьведкаў з боку абвінавачаньня. За тое сьведкі абароны красамоўныя, энэргічныя, гавораць з пад'ёмам пераканаьня, самі пераканаbны і ёсьць іх многа болей. Палітыка і тактыка мітр. Георгія праз усіх іх аднагалосна, аднагучна, ганіцца (potępiana), і калі-б на падставе гэтых паказаньняў судзіць аб настроях праваслаўнага грамадзянства ў Польшчы,... то можна было-б наўперад чакаць, што працэс гэтых зьмен (змена царкоўнага строю і аўтакефалія), якія ўправажываліся моцнай і бязлітаснай (bezwzględną) рукой мітрапаліта наперакор народу, павінен быў давясьці да якога небудзь узрыву". Наагул уражаньне ад асобы пакойнага асталося зусім ня выгаднае.

Наадварот, ня толькі сярод сьведкаў абароны, а нават часта і сярод абвінавачываючых, чуліся зусім іншыя рэкамэндацыі падсуднага. Маральная фігура яго выяўляецца ня толькі як манаха ў фармальным сэнсе (бо розныя бываюць манахі), носячага толькі зьнешне „ангельскі чын", але як манаха глыбока рэлігійнага, веруючага, здольнага падняцца да высокай ступені рэлігійнага экстаза, манаха-аскета (посьніка), „бессрэбраніка", гатовага падзяліцца астатняй капейкай з беднымі, манаха бяз закідаў у сэнсе асабістай маралі, манаха—добрага пастыра, чалавека гатовага на поўную асабістаю афярнасьць пры абароне бліжняга *).

---

*) Як высьнілася на судзе у час бальшавіцкага наезду у Крэменцы архім. Смарагд, будучы рэктарам крэменецкай сэмінарыі, ураваў жыцьцэ ныняшняга мітрапаліта еп. Крэменецкага Дыонісія, выдаўшы сябе за яго. Бальшавікі арыштавалі Смарагда, прыгаварылі яго да сьмерці. Смарагд ужо сам выкапаў па іх за-

Такая характэрыстыка падсуднага тым вастрэй ставіць пытаньне: як жа гэты *рэлігійны* і царкоўна настроены манах адважыўся на такі чын: забойства высокага царкоўнага саноўніка? Зразумела, што ні высокае маральнае становішча падсуднага, ні манашацкі сан ня толькі ня апраўдываюць падсуднага, але нават як бы яшчэ больш абвінавачываюць яго.

Суд сьвецкі так і паглядзеў на гэта і асудзіў Смарагда на цяжкую 12-гадовую турму.

Ня можна спрачацца з тым, што з юрыдычнага боку ён меў рацыю, асабліва прымаючы пад увагу, што гэта быў суд дзяржаўных, панствовых судзьдзяў, якія павінны больш трымацца поглядаў суровага закону, чым суд, напрыклад, „прысяжных“, які часьцей кіруецца на „совесьць“, паводле якой мае права сказаць „не вінават“ нават і там, гдзе ў факце фармальнага прэступленьня няма ані якога сумленьня. Але нас тут цікавіць больш ня сьвецкі суд, а суд царкоўны. Што сказала-б аб гэтым праступленьні Царква?

Нам тут могуць сказаць, што царква ўжо асудзіла Смарагда. „Св. Сінод Правасл. Царквы ў Польшчы“ адразу пасьля забойста пастанавіў пазбавіць Смарагда сьвяшчэннага сана і выпусьціў адозву да народу, гдзе называе забітага „мудрым пастырам“, „сьвяшчэннамучэнікам“, які „думаў толькі аб славе і велічы веры праваслаўнай“, а Смарагда называе „злодзеям, гнусным убійцай“ і гэтак далей. Але-ж мы гэты голас Сінода ня ўважаем за голас Прав. Царквы ў Польшчы. Як Сынод, створаны некананічна, — аднэй толькі аднагалоснай воляй самаго забітага мітрапаліта, — ён ня мае нават і фармальнага права выражаць сабой голас Царквы, якая падпарадкуецца яму не па сваей добрай воле. Як Сынод, які заўсёды стараўся ўхіліцца ад запраўднага голасу царкоўнага народу, які ў свой час зьнішчожыў усе праявы запраўднага саборнага жыцьця царквы (пастанова 12 верасьня 1922 года), ён на гэта ня мае права і маральнага.

---

гаду сабе магілу. Але народ, які любіў Смарагда вызваліу яго ад сьмерці. Пасьля еп. Дывісі усунуу, па нагаворам іерам. Філіпа (Морозова), Смарагда з рэктарства.

Такім чынам *Царква яшчэ маўчыць.* Яна яшчэ ня высказала свайго голаса аб гэтым забойстве.

Мы не на хвілінку ня сумляваемся ў тым, што і ніякі голас Царквы ніколі не апраўдаў-бы *і ня мог* бы апраўдаць самага *факта прэступленьня.* Кожнае прэступленьне з пункту гледжаньня царкоўнага перадусім ёсьць *грэх,* а грэх Царквой ніколі не апраўдываецца, але... грэх Царква мае права *прасьціць* па дадзенай ей уладзе ад Таго, Хто першы сказаў: „прашчаюцца табе грахі твае“. Царква судзіць ня толькі фармална, але пранікае ў унутрані настрой чалавечай душы, стараючыся зразумець усё тое, што перажыў чалавек у сваей душы, пакуль рашыўся на той ці іншы чын. Для яе грэшнік перадусім няшчасны брат, на якога ўзваліласе цяжкае бярэмя „іспытаньня“. — Ці прасьціла-б Царква Смарагда?

Паўтараю, фармальнага голаса царквы, выяўленнаго праз Сабор, мы ня чулі і напэўна ўчуем у Польшчы ня скора. Але не фармальна, па сутнасьці, настрої царкоўныя, як мы ўжо бачылі вышэй, досьць ясна выявіліся на тымжа судзе. На гэтым судзе праваслаўныя сьведкі не былі афіцыальнымі прадстаўнікамі Царквы, як пэўнай арганізацыі, але ўсе-ж у некаторым сэнсе голас іх мы ўважаем за выяўленьне яе настрояў і яе імкненьняў. Трэба перадусім адзначыць, што ў лічбе сьведкаў былі асобы бязумоўна з усіх слаёў і кругоў праваслаўнага грамадзянства. Тут былі і іерархі, былі і прадстаўнікі ніжэйшага духавенства, пачынаючы сялянскімі бацюшкамі і канчаючы архімандрытамі, былі палітычныя і грамадзкія дзеячы, былі пасты і сэнатары, былі вучыцялі духоўных школаў і гімназыяў, былі адвакаты і чыноўнікі, былі на рэшце і сярмяжныя земляробы сяляне. Мы відзім далей, што, лік сьведкаў абароны, нават паводле ўражаньня карэспандэнтаў польскіх газэтаў, складаўся з людзей пераважна рэлігійных, царкоўных, „гаворачых с пад'ёмам пераканаґньня і пераконаных у сваіх думках“. Адкуль жа ў іх было гэтае перакананьне і гэты пад'ём? Перадусім адтуль, што ўсё тое, што яны гаварылі, што яны сьведчылі безумоўна было *зусім згодна з настроямі і імкненьнямі праваслаўнага народу ў Польшчы.* Калі яны гаварылі аб наду-

жыцьцях мяйсцовых уладаў, аб безкарнасьці тых, хто ўціскаў Царкву, аб неканаНічным утварэньні аўтокефаліі, аб пазбаўленьні Царквы тых ці іншых правоў, актам увядзеньня „тымчасовых правілаў“, аб сваявольлі мітр. Георгія, аб перароб цы праз яго статута прав. царквы, аб зьнішчэньні праз яго падставаў сабор насьці, аб выдаленьні праз яго, пры помачы сьвецкіх уладаў, любімых у народзе, народам выбраных архіерэяў, — то ўва ўсіх гэтых словах, у кожным іх слове, чуўся адгалосак запраўднага голаса царквы, выражанага праз многалічныя епархіальныя і іншыя царкоўныя зьезды і сабраньні, праз многалічныя заявы і пратэсты, праз народныя скаргі і народныя сьлёзы. Гэта быў узапрадны голас пакрыўджанага ў сваіх найсьвяцейшых правох праваслаўнага царкоўнага люду, гэта быў хоць ня фармальна выражаны, але гэта быў узапраўдны голас праваслаўнай Царквы!

З усіх гэтых прамоваў ясна адчувалася адно: *царкоўная праўда бязумоўна стаяла па старане гэтага ўсяго ліку сьведкаў абароны і на старане* абвінавачанага, але... толькі да мамэнта праступленьня, бо *гэты акт безумоўна ўжо есць акт не царкоўны*.

З іх, з гэтых сьведкаў абароны безумоўна ніхто ня пахваліў *самага чыну*, але ніхто ня мог і ня сьмеў і—„кінуць у Смарагда, каменем“, бо кожны, як і ён,— сам тое-ж перажыў у сваей душы.

На астатнім акружным судзе пракурор у дужа нават краснамоўнай прамове, ня маючы з судовага матэр'ялу нічога, каб павысіць у вачох суда маральны воблік асобы забітага, пытаўся, наадварот абнізіць маральны воблік забойцы,—даказаць, што і забіты, і забойца „аднаго поля ягада“, што гэта абодвы „чэсталюбівыя манахі“, любячыя як „уладыкі“ кіраваць народам, што гэта была барадцьба за будучую уладу дзьвух моцных натур, якія ня маглі паміж сабой ужыцца.

Такая характэрыстыка, паскольні мы ведаем абодвых і забітага, і забіўшага безумоўна мыльная. Праўда толькі ў тым, што гэта былі дзьве бязспорна моцныя натуры. Але адна з гэтых натур (Смарагд) была глыбока рэлігійная, па самай сваей сутнасьці. Гэта рэлігійнасьць і памагла яму свае здольнасьці і сілы падпарадкаваць царкоўнай справе. Як выявілася на судзе Смарагд быў гатоў стаць самым бліжэйшым і самам шчырым памоцнікам, — слугой Георгія, калі-б толькі той гатоў быў зьмяніць сваю „царкоўную палітыку“ і стаць узапраўдным слугой Царквы, а ня сьвецкай улады. Праўда царквы і дабро царквы было для яго вышэй усяго.

Гэтага на жаль мы ня маглі-б сказаць аб забітым. Хоць аб мертвых прынята гаварыць альбо добра, альбо нічога, бо мертвы ўжо стаіць перад Судом Божыі (можа**) Бог яму і паслаў такую цяжкую канчыну, каб гэтым выкупіць яго грэх перад Царквой), але ў імя праўды мы павінны адзначыць наступнае.

Перадусім, мы ня можам аб пакойніку сказаць, што гэта быў чалавек веруючы. Як такі, ува усіх царкоўных справах ён шукаў перадусім аднаго: тым ці іншым спосабам палепшыць свой дабрабыт, ці абставіць зьнешняе царкоўнае жыцьцё адпаведна „высокаму палажэньню мітрапаліта“. Памятую добра той дзень (28 верасьня ст. ст. 1922 г.) калі я стаяў у парозе яго прыёмнага пякою ў ліку дэлегацыі ад архіепіск. Елеўферыя, — дзень у які я так добра пераканаўся у гэтым (аб гэтым я ўжо разсказываў *) і яшчэ раскажу ў іншы раз),— дзень у якім мы разсталіся з ім са славамі: „да страшнага суда Божага“! І вось гэта больш за ўсё змусіла Георгія, як чалавека мала рэлігійнага, падпарадкаваць не свае інтэрэсы інтэрэсам царкоўным, а наадварот... У гэтым вялікая розьніца паміж ім і Смарагдам. Розьніца і ў тым, што Георгі быў моцная, але халодная натура. Смарагд — гарачая, страсная. Вось гэта апошняя чарта і памяшала Смарагду вытрымаць да канца пазыцыю *слугі* Царквы і зрабіць амылку, узяўшы на душу цяжкі грэх. Забойства гэта ў кожным разе ёсьць „*чын ня саборны*“. Змагаючыся за *саборнасьць*, трэба ў кожным чыне сама му падпарадкавацца гэтаму прынцыпу. Царква на гэты чын паўнамочча яму ня давала ні ў фармальным, ні ў рэальным значэньні гэтага сэнсу і ня магла гэтага даць, бо гэта праціўна яе духу.

---

*) „Віленское Утро“. Кастрычнік 1922 г.

**) Высокія царкоуныя асобы, блізкія знаушыя пакойнага мітрапаліта і як раз прыхільныя да сучаснай царкоунай улады многа выразьней сьведчаць аб пакойным як аб чалавеку сусім няверуючым, на што маю уласнаручныя лісты. В. Б.

Яна, паўтараю, можа толькі прасьціць гэты грэх. Як можа Бог прасьціць грахі і забітага за адзін тот страшны міг, які і ён перажыў у той момэнт, калі ўбачыў перад сабой дула рэвольвера. Можа тады і ён, у гэты міг паверыў у сьмерць, паверыў і ў Бога!

На судзе так і ня выясьнілася, аб чым гаварылі паміж сабой запершыся ў кабінэці мітр. Георгі і Смарагд, бо сьведкаў іх размовы ня было, а Смарагд на судзе ня сказаў аб гэтым. У прыватнай размове пасьля суда ён аднака гаварыў: „Але-ж ніхто ня ведае, аб чым мы гаварылі з мітрапапітам перад забойствам і ня толькі ніхто ня ведае, але і прэдставіць сабе ня можа. Я б мог аб гэтым сказаць на судзе, але я не сказаў, бо я (перад тым) яму даў слова, што ніхто не даведаецца аб нашай размове, і гэта слова я утрымаў. Я-б можа яго і не забіў, але я забіў тагды, калі ўбачыў, што ён і ў Бога ня верue"...

Безумоўна і гэта „аткрыцьце" не давала права забіваць, але можна сабе прадставіць якое патрасаючае ўражаньне павінна было яно зрабіць на набалеўшую душу рэлігійнага Смарагда.

Якія-ж вывады мы зробім з усяго гэтага?

З аднаго боку. Як пра фізычную прыроду сказана гані яе ў дзьвер, — яна ўляціць у вакно, тоя-ж мы можам сказаць і пра „саборнасьць", гэтую--духоўную прыроду Царквы. Калі будзем яе выганяць з царкоўнага жыцьця, ня ставіць яе ў кананічныя рамкі, яна безумоўна праявіцца ў некананічных, падчас уродлівых, неправідловых. Ня толькі чын Смарагда але і ўся тая смута, якую перажывае Правасл. Царква ў Польшчы, ёсьць просты рэзультат царкоўнага кірунку, пачатага мітр. Георгіям.

З другога боку. Ня можна царкоўнае дзела рабіць не царкоўнымі срэдствамі. Усялякае нарушэньне гэтага не дае добрых практычных рэзультатаў:

„Я афяраваў усё: сваю кар'еру, свой дабрабыт, сваю чэсьць, нават сваё жыцьцё толькі для таго, каб вы (так гаварыў Смарагд на судзе зварачываючыся да судзьдзяў) хоць на хвілінку задумаліся над тым, што вы з намі робіце? Якую вы іерархію нам даеце?"... Як мы добра ведаем, „не задумаліся": як была некананічная іерархія, так і асталася, а замест аднаго мітрапаліта стаў другій, кананічнасьць якога яшчэ пад большым пытаньнем, а асабістыя якасьці... аб іх у другі раз.

Толькі ў аднэй волі Божыяй і зло пратвараецца ў дабро, і, калі гэты выпадак стварыўся „не бяз волі Бога тайнай", то і ён пройдзе не дарма. Але гэта высьветліць далейшая гісторыя!

Гісторыя перадусім ёсьць зямны тутэйшні суд Божы, прэдвараючы Яго астатні суд.

**В. Багдановіч.**

# „Урадовец" які „робіць" выбары. *)

Выбары паслоў у Сойм і сэнатараў у Сэнат маюць быць выразам няпрымушанай волі народу, які ў рэспубліцы ёсьць найвышэйшым кіраўнікам сваіх лёсаў — суверенам, вышэйшым за ўсіх найвышэйшых урадоўцаў-саноўнікаў.

Артык. 2 Польскай Канстытуцыі пачынаецца славэмі:

„Вярхоўная ўлада ў Польскай Рэспубліцы належыць да народу".

Народ творыць свае выканаўчыя органы — адміністрацыю і ўрад.

Урадоўцы ўтрымліваюцца з пэнсыяў, на якія народ плаціць падаткі—пасрэднія і безпасрэднія.

Кожны з урадоўцаў мае сьцісла азначаныя ў законе абавязкі, якія павінен спаўняць.

Але сярод гэтых прадпісаньняў закону няма ані воднага, якоя-б загадывала ці дазваляла —міністру, ваяводзе, ці старасьце, паліцыянту, ці судзьдзі

*) Гэтая стацьця есьць пераклад з польскага, стацьці п. Дашынскага, рэдактара пэпээсаўскай газэты „Цабудка". Стацьця зьмяшчаецца у нас с прычыны яе вялікай актуальнасьці і трафнасьці,—у перакладзе, зробленым „Беларускай газэтай Крыніцай" (№ 7). Стацьця троху скарочана проці арыгінала.

выкарыстоўваць свае ўрадавае становішча і ўладу ў мэтах уплываньня на тое, каб выбаршчыкі галасавалі так, як хоча ўрад...

Староста, склікаючы войтаў, каб даручыць ім падтрыманьне ўрадовага кандыдата, чыніць праступленьне, — надужыцьце ўлады.

Паліцэйскі, агітуючы службова за ўрадавым кандыдатам, чыніць так-жа праступленьне.

Ваявода, абяцаючы, на моцы сваей улады, розныя карысьці, ці пагражаючы шкодамі выбаршчыкам, націскаючы іх тым галасваць за ўрадавага кандыдата, таксама ёсьць праступнікам.

У прававым гаспадарстве ніякі ўрадовец не павінен наагул службова высоўваць таго ці іншага кандыдата, як урадовага, а таксама ганіць публічна іншых кандыдатаў, бо гэта ўсё есьць надужыцьце ўлады.

Недарма-ж угалоўны кодэкс карае гэтыя праступленьні, бо ўрадовець, „робячы выбары", перастае быць урадоўцам, але робіцца ўжо „партыйнікам", які аднак-жа бярэ пэнсію з касы дзяржаўнага скарбу.

Такі ўрадовец робіцца ціхім супольнікам розных людзей, якія часта робяць брудныя інтарэсы пры выбарах.

Такая адміністрацыя траціць даверые ў грамадзянства і сама робіцца партыйнай. Пасьля такіх выбараў няма ўжо мовы аб павазе ўрадоўца, які на моцы свайго ўрадавага становішча займаўся агітацыяй, падтрымліваючы адных, зьбіваючы другіх кандыдатаў.

Маладое польскае чыноўніцтва, затручанае выбарнай агітацыяй, можа ператварыцца ў нейкую ракавую пухліну, якая сточыць дый зьесьць праўны арганізм дзяржавы..:

Калі такі ўрадовец будзе падтрымліваць, напрыклад, паляка проці украінца, (ці беларуса. Рэд.), тады слушна могуць лічыць яго за *„польскага"* урадоўца, але не безстаронняга, і слушна ня будуць мець даверыя да такой адміністрацыі,

Калі ўрадовець „робіць выбары"— па загаду згары, тады ён перастае быць чэсным чалавекам, — бо-ж заўтра іншы міністар загадае ды змусіць яго-ж — зьбіваць тых, якіх ён падтрымлівае сяньня.

Толькі недаспелыя палітычна стасуюць пры выбарах яўны выбарны подкуп шляхам надужыцьця ўрадоўцамі ўлады. Толькі ў народаў, нізка стаячых, урадоўцы па загаду згары „выбіраюць" законадаўчыя палаты, залежныя ад ураду...

Дык ведама-ж у гэтых народах ніхто ня верыць у чэснасьць урадоўцаў,

Там—„łapówka", пратэкцыя, надужыцьце ўлады — сталыя зьявішчы ў урадавых установах.

Калі ўрадовец купляе галасы, засноўвае і фінансуе выбарныя газэты, плаціць раз'ездным агітатарам, перакуплівае павадыроў працоўных партыяў,— дый робіць гэта ўсё за грошы, атрыманыя „зьверху", тады ён дае масам прыклад найгоршага р о д у г р а м а д з я н с к а г а с а п с у ц ь ц я, дый варты ёсьць за гэта вастрогу.

**Разумныя людзі, чэсныя грамадзяне ня патрабуюць у часе выбараў урадавых „падсказаў" дый наагул знаць ня хочуць ніякіх „урадавых кандыдатураў".**

Такі „ўрадавы кандыдат" сярод палітычна разьвітых грамадзян адразу траціць ўсялякія шансы пасьпеху, якраз дзякуючы гэтай азнацы: „жондовы"... Бо-ж ясна, што для выбраньня яго паслом трэба грошаў ды надужыцьцяў улады.. Ужо праз гэта адно ён робіцца падазроным.

Як нявольна ў часе выбараў карыстацца касьцельнай амбонай, ці спавядніцай, як нявольна купляць галасы за грошы багачоў, як нявольна кіям, палкай, гарэлкай, пагрозай ўплываць на выбаршчыкаў, акурат таксама нявольна „абрабляць" іх — шляхом „урадаваў намовы".

Што-б сказалі, калі-б— у самадзяржаўнай манархіі, дзе суверэнам ёсьць цар, міністар сьпярша напайваў-бы цара, а пасьля даваў-бы яму для падпісу праэкты законаў?

Што зрабіла Расея, калі даведалася аб тым, што праступны ашуканец Распуцін шкадліва і стала ўплывае на цара і царыцу? Расея забіла спярша Распуціна, а пасьля цара і царыцу.

Што-ж можа зрабіць рэспубліка, дзе самадзержцам, як сказана, ёсьць народ, калі яе ўрадоўцы ў часе выбарнай дзейнасьці міліёнаў грамадзян чы-

няць масава праступленьне, надужыцьця ўрадавай улады.

— Патрэбаваць суровай кары для праступнікаў, а калі яны дзеялі па загаду зьверху, тады аддаць міністра пад суд.

Але, калі гэтыя выбарныя „ўплывы" астаюцца бязкарнымі, тады народ страшэнна церпіць з прычыны дрэннай, здэмаралізаванай адміністрацыі дый з прычыны сфальшаваньня выбараў у заканадаўчыя палаты, якія па загаду ўраду будуць прымаць яго законы, страціўшы поруч з урадам усялякае даверые вялікай большасьці народу.

Дык той, хто неасьцярожна дагаджае ўраду рабіць націск у часе выбараў праз урадоўцаў, той або ёсьць цёмны чалавек, не разумеючыся ў гэтых рэчах, або хоча ісьці да ўлады шляхам праступленьня.

Але ён дачакаецца толькі найгоршых для рэспублікі пасьледстваў, бо-ж раз страчанага даверыя да ўрадоўцаў доўга-доўга ня можна будзе адбудаваць...

# 10 гадоў таму назад.

(З успамінаў аб працы Маскоўскага Сабору ў часе бальшавіцкага перавароту)

(працяг).

На другі дзень (у нядзелю 31 студня) назначана было ўрачыстае богаслужэньне ў крэмлёўскім Успенскім саборы. Усіх богамольцаў бальшавіцкая улада ў Крэмль ня пусьціла; дазволена было прысутнічаць на багаслужэньні толькі духавенству, сябрам Сабора і яшчэ невялікай колькасьці багамольцаў па асобным пропускам, выданым бальшавікамі. Помню раньніцу, калі мы, сябры Сабору, доўга стаялі каля крэмлеўскай брамы, пакуль нарэшце прыйшоў з камендатуры Крэмля нейкі бальшявіцкі ўраднік у вайсковай вопратцы з заспаным тварам, з яўнымі сьлядамі ніто алькаголю, ніто какаіну і стаў прапускаць у браму, правераючы прапускныя білеты.

Абедню служыў патрыярх і многа архіерэяў і ніжэйшага духавенства. Сьпяваў мітрапалічы хор. Усе шчыра маліліся. Пасколькі помню, казаньне ў царкве гаварыў ацец Георгі Спаскі, вядомы віленскім праваслаўным жыхарам яшчэ перад вайной сваім краснамоўствам *). Пасьля абедні з сабора тронулася працэсія на „Чырвоны Пляц" праз Спасскую браму.

*) Цяпэр ен знаходзіцца у Парыжу і, як і у Вільні, захоплівае слухачоу сваімі надзвычай пекнымі і гарачымі царкоунымі казаньнямі.

У Крэмлі было зусім пуста, бо, як я сказаў, бальшавіцкая улада народу ў Крэмль ня дапусьціла. З Крэмля нам ня відаць было, ці ёсьць народ, на пляцу, ці не. Я ішоў у працэсіі разам з сябрамі сабору ад Віленшчыны.

З заміраньнем сэрца зближаліся мы да Спасскай брамы. Што там будзе? Ці прыйшоў народ, каб бараніць сваю праваслаўную Царкву, ці не? А што, калі не? А што, як разам з палітычным пераваротам ён страціў і веру, паддаўшыся прапагандзе і агітацыі камуністаў? А што, як у знак згоды з бальшавіцкай уладай, ці, найменей, проста „страха радзі", ён ня прыдзе сяньня на „Красную плошчадзь"? З такімі думкамі падыходзілі мы да Спасскай брамы: вось зараз выйдзем з брамы, і з вышыні яе нам будзе відаць ўвесь „Чырвоны пляц" як на далоні...

Ледзьве мы выйшлі з брамы, як нам прадставілася зусім нявіданнае зрэлішча. Увесь вялізарны „Чырвоны пляц" быў бітком набіты народам так, што, здавалася, ня можна-б было гдзе, як гаворыцца „яблыку ўпасьць". І ня толькі пляц, але ўсе вуліцы, якія прылягаюць да пляца, як толькі можна было ахапіць вокам, — усё было пакрыта нялічанымі натоўпамі праваслаўнага на-

роду, які прыйшоў сюды, каб паказаць сваю прыхільнасьць і вернасьць веры і Царкве. Над гэтым бязмежным морам людзкіх галоў блішчэла на яркім зімнім сонцы мноства харугвяў, крыжоў, абразоў, што рабіла агульны від усяго гэтага відовішча захопліваючa—пекным.

Такая маса народу сабраўшагася ў адно мейсца дзеля аднэй ідэі, дзеля аднэй думкі, адразу падняло агульны настрой, падняло дух на высату, якая найлепш гарманавала з прыгажэйшым выглядам...

І вось тут здарыўся адзін ня вялічкі выпадак, ці як гавораць інцыдэнт, які з пачатку паказаўся для мяне дужа дзіўным пры такім агульным настроі народа, але пасьля, калі я аб ім падумаў, ён мне стаў ня толькі зразумелым, але і навучыў глядзець на многія рэчы іначай.

У Крэмлі, каля варот і на пляцу, — усюды былі раськінуты невялічкія пікеты красноармейцаў, чалавека па тры, па чатыры, якія зорка сьлядзілі за ўсім, што робіцца, але працэсыі ня перашкаджалі. Ня ведаю якім спосабам у Крэмль папаў і цяпер ішоў у працэсіі стары з даўгой белай барадой расейскі генэрал у шэрай шынэлі з залатымі пагонамі. Бальшавікі даўно ўжо забаранілі афіцэрам і генэралам насіць пагоны. Калі хто з іх выходзіў на вуліцу ў пагонах, дык у лепшым выпадку ў яго пагоны зрывалі, а то арэштовывалі і садзілі ў турму. Дзеля гэтага афіцэры хадзілі па вуліцы ліба ў цывільнай адзежы, ліба ў вайсковай, толькі бяз пагонаў. Але відаць на гэты раз стары генерал рашыўся выйсьці ў пагонах, бо відаць, трудна было яму, увесь свой даўгі век праслужыўшаму ў войску, можа быць нават многа разоў раненаму, адмовіцца ад жаданьня яшчэ раз увідзець сябе ў залатых пагонах, якія зьяўляюцца прызнакам афіцэрскага ці генэральскага чыну. Ён мусіць думаў, што сярод крэснага ходу, сярод вялізарных натоўпаў рэлігійнага народу, бальшавікі ня адважуцца яго зачапіць...

Калі мы былі ўжо каля Спасскай брамы, раптам, два ці тры краснаармейцы, шпарка аддзяліўшыся ад сьцяны, гдзе яны стаялі прыціснутыя натоўпам народа, заўважыўшы генэрала, сьмела дзьвінуліся у самую гушчу, растаўхалі народ і зблізіліся да генерала:

— „Эй! генерал! Вы што-ж гэта ў пагонах?" Яны падхапілі беднага старыка пад рукі і павялі вон з таўпы...

Што будзе? Пад уплывам учарашняга ўражаньня я думаў, што вось зараз, як і ўчора, з усіх бакоў пацягнуцца да гэтых краснаармейцаў рукі, і яны так сама згінуць сярод таўпы, як учарашні ругацель. Але... ня толькі ня здарылася гэтага, але нават сярод таўпы пачуліся зусім процілежныя выкрыкі і сэнтэнцыі: — „Так і слѣдует! Чего вышел-то с погонамі? Знаешь распоряженіе? Ну і надо подчиняться!".

З пачатку, паўтараю, я адразу ня ўразумеў, чаму гэта рэлігійна настроены народ так холадна аднесся да беднага старыка — генерала. Але пасьля зразумеў, што калі і праўда тое, што народ тут мала выявіў жаласьці і міласердзія, дык *прынцыпова* безумоўна ён меў рацыю. Ён выйшаў сюды на гэты пляц, каб бараніць *веру*, а ня генэральскія *пагоны*. Гэта толькі дзякуючы прывычцы, якая так укаранілася у нас з дзяцінства, ад прысутнасьці на розных урачыстых богаслужэньнях, нам стала трудна аддзяліць сьвецкі, дзяржаўны дадатак да багаслужэньня ад чыста царкоўнага, так што пагоны і ўсякі блеск стаў здавацца нам ледзьве не неабходнай прыналежнасьцю царквы і багаслужэньня. А народ глыбей зразумеў сутнасьць справы. Вось учора ён ледзь не разарваў чалавека, які асьмеліўся зьняважыць царкву, а сяньня... сяньня генэрал (хоць мне і дужа жалка беднага старыка) безумоўна ня меў рацыі, бо *хацеў свае пагоны паставіць пад абарону Царквы*, ці іначай: *скарыстаць Царкву для мэтаў нічога супольнага з царквой і рэлігіяй ня маючых.*

На „Краснай плошчадзі", на „лобным мейсцу", на вазвышэньні гдзе калісьці асуджывалі і казьнілі праступнікаў, быў адслужаны малебен. Ня памятую, хто гаварыў казаньне, а пасьля усе сабраўшыяся крэсныя ходы сталі пацІху разыходзіцца ў розныя бакі па вуліцам, прылягаючым да „Чырвонага пляцу".

Настрой быў ува ўсіх паднесяны. Ня ведаю, хто першы сярод крэснага ходу зацягнуў пасхальную песьню: „Хрыстос васкрэсе!" Яе падхапіў другі крэсны ход, трэці і гэт. далей. Так і ра-

зыйшліся працэсіі па ўсей Маскве, абвешчываючы ўсіх аб вялікай маральнай перамозе веры над няверуючымі цёмнымі сіламі...

Гэты крэсны ход ясна выявіў дзьве рэчы. Першае — што народ праваслаўны ў падаўляючай сваей большасьці крэпка трымаецца веры праваслаўнай, як падставы свайго жыцьця,—што ён не адрачэцца ад яе ні пры якіх варунках і будзе змагацца за яе пры ўсялякай уладзе, усялякіх палітычных абставінах і ўстроях. І другое, — што народ зусім ня зьмешывае палітычнага строю з царквой і рэлігіяй. Дзяржава ня ёсьць штось вечнае пастаяннае, тым больш— ня вечны яе ўрад. Сяньня — адзін, заўтра — іншы. Сяньня манархія, заўтра — рэспубліка, сяньня адны парадкі, заўра іншыя. А вера хрысьціянская павінна быць нязьменная. Папярэдняя ўлада неправідлова зьмяшала пэўны (манархістычны) строй з рэлігіяй. Народ паказаў, што бяз гэтага строю (генэральскія пагоны) ён абыйсьціся можа, а бяз веры і бяз Царквы — ніколі.

(Аканьчэньне будзе).

**В. Багдановіч.**

## Беларуская выбарная справа.

У першых днях гэтага лютага Блёк Нацыянальных Меншасьцяў зложыў па ўсіх вакругох свае сьціскі. Гэтым закончыўся другі перыяд выбарнай кампаніі, бо 3-га лютага ўжо мінуў тэрмін падачы сьпіскаў.

Улажэньне сьпіскаў кандыдатаў Беларускага Аб'яднанага Выбарнага Камітэту папярэдзілі зьезды і канфэрэнцыі выбаршчыкаў у паасобных вокругах. Такія зьезды і канфэрэнцыі адбыліся: у Баранавічах 22-га студзеня, у Ваўкавыску 24-га студзеня, у Сьвянцянах 23 студзеня, у Маладэчне 26-га студзеня, у Горадні 26-га студзеня с. г. і інш.

На зьездах былі выстаўлены паасобныя кандыдаты на сьпіскі Блёку Нац. Меншасьцяў, а на паседжаньні Беларускага Цэнтральнага Аб'яднанага Выбарнага Камітэту, якое адбылося 27 і 28 студзеня, былі аканчальна зацьверджаны сьпіскі кандыдатаў на паслоў у Сойм і Сэнат ад Беларусаў.

Ува ўсіх 9 вокругах Беларускі Аб'яднаны Выбарны Камітэт Блёку Нацыянальных меншасьцяў падаў сваіх кандыдатаў на сьпісках Блёку Нацыянальных меншасьцяў.

Першыя кандыдаты ў Сойм на сьпісках па вокругах наступныя:

**I. Сьвянцянскі вокруг.**

1) Каруза П., 2) Стэповіч А., 3) Юхневіч К., 4) Коцон, 5) Чэрніхаў і інш.

**II. Лідзкі вокруг.**

1) Більдзюкевіч А., 2) Пазьняк Я., 3) Чэрніхаў, 4) Яковіч Я. і інш.

**III. Наваградзкі вокруг.**

1) Рагуля Б., 2) Куніцкі Ів., 3) Яковіч Я., на чацьвертым месцы кандыдатуе Жыд, 5) Голад Л.

**IV. Вільня і Віленска-Троцкі павет.**

1) Д-р Выгодзкі, 2) Грабінскі Б.

**V. Беластоцкі вокруг.**

Першае месца жыдоўскае*), далей ідуць беларускія кандыдаты: 2) Д-р Туронак Б., 3) Грыневіч, 4) Наруш і інш.

**VI. Горадзенскі вокруг.**

1) Федарук Уладз., 2) Жыд, 3) Зянюк Карп.

**VII. Бельскі вокруг.**

1) Белы, 2) Голад Л., 3) Сергяюк.

**VIII. Берасьцейскі вокруг.**

1) Арцямюк, 2) Пазьняк А., 3) Куроўскі Г., 4) Салавей.

**IX. Пінскі вокруг.**

1) Астроўскі, 2) Куніцкі, 3) Чэрніхаў.

**На дзяржаўным сьпіску ад Беларусаў кандыдатуюць: Ярэміч Ф., Васілеўскі Ів. і Яцына А.**

**Кандыдаты ў Сэнат:**

**Віленскае ваяводзтва.**

1) Багдановіч Вячаслаў, 2) Д-р Шабад, 3) Сухадолец, 4) Тарчэўскі і 5) Беганскі А.

*) Апе той самы жыд ідзе у Сэнат па Берайсьцейскаму вокругу.

**Наваградзкае ваяводзтва.**

1) Рагуля Б., 2) Багдановіч С.—са Слоніма, 3) жыдоўскі кандыдат, 4) Сухадолец.

**Палескае ваяводзтва.**

Ад Беларусаў: Зянюк Карп і Макарэвіч П.

**Беластоцкае ваяводзтва.**

1) Рубінштэйн, 2) Багдановіч Вяч., 3) Зянюк Карп, 4) Карпюк Т.

**На дзяржаўным сьпіску** ў Сэнат кандыдатуюць ад Беларусаў: Беганскі Антон і Багдановіч В.

Як мы ужо ведаем на „панствовай лісьце" **беларусы стаяць толькі па № 18. Іншых дзяржаўных беларускіх сьпіскаў няма**, бо невялічкія беларускія групы, стварыўшыяся з былой „Грамады", якая цяпер разьбілася аж на пяць групаў, а таксама нібы беларускія угадоўскія партыі, — ні адна ня уздоліла падаць дзяржаўнага сьпіску.

Замест гетага па некатарых вокругох гэтыя групкі падалі свае сьпіскі акружныя пад рознымі нумарамі.

З гэтых сьпіскаў можна адзначыць гэтакія. 1) Штучна створаная польскай эн-дэцыяй група **Паўлюкевіча**, які падаў свой сьпісак пад назовам „агульна-беларускага народнага сьпіску". Аб партыі Паўлюкевіча мы ніколі яшчэ не пісалі ў сваей „Праваслаўнай Беларусі" нічога. Аднака аб ім так многа пісана ў іншых беларускіх часопісях, што асоба яго з боку палітычнага досыць ведама ўсім. Думаем, што галасаваць за яго сьпісак будуць толькі тыя, хто беспасрэдня ад яго атрымлівае грошы і хто зьяўляецца платным „ужэнднікам" у яго арганізацыі: у Вільні ён утрымлівае „ігорны дом" пад назовам „Біеларуская хатка". 2) Другая угадоўская група **Умястоўскага** нават страціла ўжо і імя беларускае. Умястоўскі ў сваім „Беларускім Дні" доўга пісаў у гаспадарчым аддзеле аб тым, „як выбіраць добрага каня". Відаць добра сам сябе навучыў, бо выбраў нарэшце сабе „добрага каня" — у польскай партыі „супрацы з жондам". Паедзе далёка! 3) За гэтымі дзеячамі пайшоў „беларускі спадар" **Янка Станкевіч**. Розьніца толькі ў тым, што яго падтрымліваюць не „эн-дэкі" і ня „споўпраца" а іншыя польскія палітычныя групы „польскіх дэмакратаў", згуртаваўшыхся каля польскай газэты „Kurjer Wileński". Відаць, што для нейкай прыкрасы, каб ня адразу можна была распазнаць узапраўдны характар яго групы, ён на свой сьпісак паставіў жонку ведомага беларускага дзеяча паню Астроўскую. 4) Частка былой „Грамады", так сказаць грамадоўская правіца, згуртавалася каля сэнатара **Уласава**. Гэты беларускі дзеяч сам сябе любіў называць „беларускім кадэтам" (на манер расейскіх ка-дэтаў: Ка-Дэ, — канстытуцыйна-дэмакратычная партыя). За час свайго сэнатарства Уласаў займаўся не палітычнымі справамі, а насаджываньнем сярод беларусаў „мэтодызму" (амэрыканская рэлігійная сэкта), пераважна ў сваей Радашкоўскай гімназіі. Як так здарылася, што гэта „ка-дэцкая галава" уселася на „грамадаўская тулава", трудна зразумець. Гэта ненармальнасьць скора і выявілася. Палітычныя крокі, зробленыя п. Уласавым у ўрадавых кругох у Варшаве, так узбурылі тулава проці галавы, што Уласаў змушаны быў урачыста адмовіцца зусім ад палітычнай працы, аб чым ён і заявіў у пісьмах у прэсу (гл. у пояьскам „Słowie" і ў паўлюкевічаўскім „Беларускім Слове"). Ня гледзючы аднака на гэтае адрачэньне ён усё-ж выставіў свой сьпісак пад назовам „сьпіска беларускага працоўнага народу"

Аб іншых беларускіх ці поўбеларускіх сьпісках ня варта і ўспамінаць. Гэтыя сьпіскі ня маючы свайго аднаго дзяржаўнага нумару змушаны ў кожным вокрузе складаць асобныя розныя нумяры, дзеля чаго выходзя вялікая путаніца, разьбіваючая толькі галасы і псуючая беларускую выбарную справу. Дзеля гэтага кожны беларускі выбаршчык павінен добра помніць, што **узапраўдны беларускі сьпісак, адзіны па ўсіх вокругох ёсьць сьпісак № 18 і галасаваць толькі за яго, каб ня псаваць справу выбараў і ня шкодзіць беларускаму народу.**

**СЯБРА.**

# ЦАРКОЎНАЯ ХРОНІКА.

**Юбілей мітр. Еўлогія.** Заходняэўрапэйская праваслаўная епархія ўрачыста адсьвяткавала 12-25 гэтага студня 25 гадовы юбілей яго епіскапства. Расейскія і іншыя заграічныя газэты дужа цёпла прывіталі ўладыку, адзначаючы яго вельмі пладавітую дзеяльнасьць на карысьць праваслаўя. Найгалаўнейшай яго справай з'яляецца утварэньне ў Парыжу „Сергіеўскага падворра“ і ў ім Богаслоўскага інстытуту ў які Уладыка змог прыцягнуць да працы найвіднейшых прадстаўнікоў праваслаўнага багасловія.

**„Сергіеўскія лісткі“.** Пры „Сергіеўскім падворры“ у Парыжу пачалі выдавацца рэлігійна-маральнага зьместу лісткі. Выйшаў ужо 3-ці нумар. Пробныя нумары лісткоў можна выпісаць ад Рэдакцыі „Праваслаўнай Беларусі“.

# Палітычная хроніка.

— **Польска-літоўскі канфлікт,** абвастрыўшыся ў канцы мінулага гэтага года ледзьве не да вайны паміж Літвой і Польшчай, яшчэ аканчальна ня зьліквідаваны. Ліга Нацыяў, на разважаньне якой аддадзена была справа ўрадамі абедзьвюх дзяржаваў, была ў сілах толькі перашкодзіць узрыву вайны і змусіць абодвы ўрады да згоды на перагаворы. Але пакуль-што гэтыя перагаворы яшчэ ня пачаліся, а прыватныя размовы прэдстаўнікоў абедьвюх дзяржаваў паказываюць, што прычыны канфлікту ня толькі ня зьліквідаваны, але і ня скора зьліквідуецца.

Пакуль-што абедзьве дзяржавы абмяняліся афіцыальнымі „нотамі“ (заявамі).

Міністар вонкавых спраў Польшчы п. Залескі ў сваей ноце прапануе вясьці перагаворы ў Рызе, пры чым сам гатоў стаць на чале польскай дэлегацыі. У праграме перагавораў ён ставе чатыры пункта: 1) аб граніцах, 2) аб паштова-тэлеграфным, 3) аб чугункавам і 4) аб транзітным (таваровым) руху.

Літоўскі міністар Вальдемарас у адказнай ноце адзначае, што праграма польскага міністэрства не распрацавана, у сувязі с чым ён уважае, што перагаворы вясьці яшчэ ня можна, што гэты срок перагавораў можна акрэсьліць толькі ў Лізе Нацыяў, што п. Залесскі ня добра зразумеў рэзалюцыю Лігі Нацыяў, якая выключыла Віленшчыну з праграмы перагавораў, што Польшча ня ўтрымала свайго слова, што да неўмешацельства ў-ва ўнутранія справы Літвы, што Літва ўперад за ўсё трэбуе адшкадаваньняў за ўбыткі, створаныя аккупацыяй Віленшчыны праз ген. Жэлігоўскага і г. д.

Адным словам, з гэтага ясна, што цэнтрам усей справы паміж Польшчай і Літвой з'яўляецца Віленшчына. Літва яўна згадзілася-б на ўзнавеньне нармальных паштовых, чугункавых і іншых алносін з Польшчай, але... апрача Віленшчыны, бо яна разумее, што кожнае яе пісьмо, ці пасылка, перасланая ў Віленшчыну як у польскі край з'яўляецца ў нейкім сэнсе прызнаньнем Віленшчыны за Польшчай, — што кожны пасажыр пераехаўшы граніцу паміж Ковеншчыняй і Віленшчыняй як праз граніцу дзьвёх дзяржаваў ужо з'яўляецца нейкім доказам згоды (хоць-бы і часовай згоды) Літвы на ўзнаньне Віленшчыны за Польшчай.

З гэтага ўсяго відаць, што канфлікт паміж Польшчай і Літвой фактычна пакуль што астаўся яшчэ ў папярэднім стане і ліквідацыя яго ў такой меры ня лёгка, у якой меры ня лёгка для Літвы і для Польшчы адмовіцца ад Віленшчыны.

У гэтай „мірнай“ барацьбе Польшчу падтрымлівае Францыя, але Літва яўна шукае такога-ж падтрымліваньня ад Германіі, куды езьдзіў ужо пасьля Жэневы Вальдэмарас.

Што будзе далей? — Ці ўзноў завязаны польска-літоўскі „гордзіяў вузял“ будзе разьвязываць Ліга Нацыяў, ці... яго прыдзецца разрубіць мячом сучасным нашым „Аляксандрам Македонскім?“ Бог ведае!

**— Канец „мітрапалічага“ блёку.** Распачаўшы свае істнаваньне у мітрапалічых пакоях „праваслаўны сьпісак“, ці, як мы яго празвалі, „Мітрапалічы блёк“, ужо гэта істнаваньне закончыў. З трох дзеячоў, якія сталі на яго чале, (Філіп Марозаў, сьв. А. Коўш і б. сэн. Назарэўскі) астаўся толькі, здаецца, адзін, арх. Філіп, які з ніякімі выбарнымі лістамі ня выступаў. Коўш, пазбаўлены свабоды ў сувязі з працэсам „Грамады“, а Назарэўскі напісаў у рэдакцыю газэты „За Свабоду“ пісьмо, у якім заяўляе, што ён ня можа разам працаваць з такімі адзіознымі фігурамі як, арх. Філіп.

Як памятаюць чытачы нашы, мы ўжо прадсказывалі такую судзьбу гэтай зацее. Дзівімся толькі, што сэнатар Назарэўскі яшчэ і цяпер, здаецца, ня страціў надзеі, што ў сувязі з мітрапалітам Дзіанісіям можна штось рабіць у напрамку „увядзеньня саборнага строю“ ў Царкве? — Столькі сама там можна навучыцца „саборнасьці“, сколькі ў Філіпа Марозава можна навучыцца цьвёрдасьці ў праваславіі.

**— У Савецкай Рэспубліцы пасьля ліквідацыі апазыцыі.** Ліквідацыя апазыцыі, — высылка ў Сібір галаўнейшых аппазіцыянераў на чале с Троцкім і здача іншых, пачынаючы з Зіноўева, як відаць з газэтаў, да пакою ў СССР не прывела.

Апазыцыя прадаўжае выступаць з пратэстамі проці ўрада Сталіна, нават с тэррорыстычнымі актамі.

Нядаўна разнёсся слух, што там ужо пачалася межусобная вайна, — што ген. Тухачэўскі, які ішоў калі-сь на Варшаву, ідзе вайной на Маскву, якую будзе бараніць Варашылаў. Чуткі гэтыя аказаліся газэтнымі „вуткамі“. Ніякай вайны там пакуль што няма. Аднака самая барацьба з апазыцыяй красамоўна сьведчыць аб тым, што камунізм і як рэальная падстава, і як ідэал жыцьця ў СССР, патроху зьніштажаецца, зыходзе з жыцьцёвай сцэны.

Пачаць бы з таго, што высланые ў Сібір з'яўляюцца „першаразраднымі“— „лявейшымі“, камуністамі (Троцкі, Каменеў, Радэк, Ракоўскі, Еўдакімаў). Гэта яўна сьведчыць аб унутранім разкладзе партыі, тым больш, што пачьнаюць насядаць на ўрад Сталіна і прэдстаўнікі камуністычнай правіцы (Рыкаў, Калінін) і жадаюць розных сацыяльна-эканамічных уступак, галоўнае—розных грамадзкіх свабод. Гэты рух падтрымліваецца рознымі народнымі паўстаньнямі.

Ці павядзе гэта да міжусобнай вайны, няведама, алі безумоўна павінна павясьці да якога небудзь новага НЭПа (новая экономічэская палітыка), да якіх небудзь новых нацыян.-сацыяльных уступак, на якія змушаны будзе пайсьці ўрад, каб захаваць сваю ўладу і затрымаць пераварот.

**Міністэрскі крызіс у Югаславії.** — 1 лютага пашоў у адстаўку Юга-Славянскі габінэт. Прычына—выхад усіх міністраў-дэмакратаў са складу габінэту. У некаторых месцах Белграду узьніклі ўворужаныя сутычкі паміж палітычнымі праціўнікамі. Складаньне новага кабінэту міністраў даручана ізноў былому прэмьеру Вукічэвічу, які спробаваў стварыць коаліцыйны ўрад (складаючыйся з усіх галоўных партыяў парляманту) і запрасіў да міністэрства Радзіча (харвацкая партыя), але перагаворы пакульшто ня прывялі да нічога.

**Чэха-Славакія пагадзілася з Ватыканам** (папскі двор). Рымскі Папа і Чэхаславацкі ўрад 2 гады ня мелі ніякіх зносінаў адзін з другім. У сталіцы Чэха-Славакіі, Празе, ня было нават папскага прадстаўніка.

Прычына гэтаму была гэтакая:

Некалькі стагодзьдзяў таму назад, у Чэхіі жыў Ян Гус, які будучы, каталіцкім духоўнікам, вышаў з-пад улады рымскага папы. За гэта Яна Гуса жыўцом спалілі. І вось цяпер, калі Чэхаславакія стала вольнаю і незалежнаю, Чэхаславацкі Народ успомніў свайго мучаніка і той дзень, у які спаліла духоўная ўлада Яна Гуса, Чэхі ўрачыста сьвяткавалі. Але-ж гэта не падабалася рымскаму двару, які загневаўся на чэ-

хаславацкі ўрад і з-за гэтага парваліся зносіны паміж папаю і Чэхаславакіяй.

У такім выпадку нарушаная гармонія панаваньня над духавенствам дрэнна адбівалася на дзяржаўных справах, а таксама былі замешкі і рымскаму папе ў кіраўніцтве каталіцкім духавенствам у Чэхаславакіі. Вось чаму павінны былі — Чэхаславакія і Ватыкан зьліквідаваць канфлікт і ўрэгуляваць адносіны паміж сабою. Так што цяпер справа ўладжана.

На гэтых днях Чэха-Славацкі ўрад апублікаваў дагавор з Рымскім Папаю, які рэгулюе граніцы епархіяў, палажэньне манахаў і рэлігійных грамадаў, а галоўнае, назначэньне чэха-славацкіх япіскапаў. Цяпер Чэха-Славацкі ўрад падае Папе сьпісак кандыдатаў на япіскапаў, Папа з іх выбірае і назначае, пры чым япіскапы прыносяць прысягу Чэха-Слав. канстытуцыі. Далей Папа прызнаў, што чэская нацыя можа дастойным чынам сьвяткаваць памяць свайго рэлігійнага рэфарматара Гуса, але каб сьвяткаваньне гэтае не абражала рэлігійнага пачуцьця каталікоў.

**Перарыў торговых перагавораў паміж Польшчай і СССР.** У канцы студня пачаліся торговыя перагаворы паміж Польшчай і СССР, дзеля чаго ў Маскву выехалі як дэлегаты п. п. Галуўка і Сакалоўскі. Перагаворы гэтыя перерваліся, як пішуць, з прычыны дапушчанай бальшавіцкім урадам нетактоўнасьці, бо к самаму прыезду прадстаўнікоў Польшчы ў Маскву быў створаны судовы працэс кс. Скальскага, завінавачанага ў шпіанажы на карысьць Польшчы, прычым савецкія газэты пісалі, што гэтаму шпіанажу дапамагаюць польскія дыплёматычныя прадстаўнікі. Галуўка і Сакалоўскі вярнуліся ў Варшаву.

## З беларускага жыцьця.

— **Судовы працэс б. пас. Ф. Ярэміча.** 28 студня ў Вільні, аб якім мы паведамлялі ў апошнім нумары, адложаны.

— **Суд над Рагулай.** На 27 гэтага месяца ў Навагрудку вызначана судовая справа над б. пас. Рагуляй. Абвінавачываецца ён па ст. 129 за прамову, сказаную гады 3—4 таму назад на мітынгу. Бараніць яго будуць К. Аляксюк і віленскій адвакат Чэрніхаў. Сьведкамі з боку абароны вызываюць некалькі б. паслоў і сэнатараў. У тым ліку В. Багдановіч, Ф. Ярэміч, былы сэкрэтар Бел. Пас. Клюбу Більдзюкевіч і інш. В. Багдановіча, апрача таго абарона вызвала і сьведкам на суд над грамадоўцамі 23 лютага.

— **Хвароба Рэдактара „Прав. Бел."** Рэдактар „Прав. Бел." прат. Л. Голад цяжка захварэў (на плеўрыт) і ўжо трэці тыдзен ляжыць у літоўскай клініцэ.

— **Канфіската „Беларускай Крыніцы".** Па загаду камісара ўраду на м. Вільню канфіскаваны № 9 газэты „Беларуская Крыніца" за артыкул „Голас з вёскі" і заметку „Зьдзекі адміністрацыі", і № 14 за перадвыбарныя гасла*). Апрача таго сканфіскована невялічкая перадвыбарная лятучка Блёку Нац. Меншасьцяў з вершам: „За Блёк галасы".

— **Спэктакль вечарына.** У нядзелю, 5-га лютага, у салі Т-ва Беларускае Школы адбыўся спэктакль-вечарына, ладжаны Беларускім Студэнскім Саюзам. Адыграна была п'еса „Цені", твор Фр. Аляхновіча.

Бралі ўдзел у ігры артысты: Залкінд, Туркевічанка, Маскалік, Лобан і Амельяновіч.

— **Спэктакль на вёсцы.** Шутавіцкі Гурток Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры 5 г. лютага ладзіў прадстаўленьне. Адыграна была п'еска „Зьбянтэжаны Саўка".

Пасьля прадстаўленьня адбыліся дэклямацыі і пяяліся песьні.

*) Гэтую канфіскату зьвярнулі.

**Беларусы! галасуйце у Сойм і Сэнат за наш № 18.**

# НАША ПОШТА.

С. Новіку. Swiecie n-w. На жаль ня можам Вам выслаць № 5 „Прав. Б." за 1927 г., бо гэты нумар увесь разыйшоўся.

Я. Пацкевічу. в. Нарэйка. Грошы атрымалі. Выслалі нумары: 6, 7, 8 і 9 поштай.

Св. Е. Ракецкаму. Сушкава. Часопісь высылаем акуратна. Трэбуйце з пошты. На жаль № 4 увесь разыйшоўся. Запытайцеся у Вашай вёсцы можа хто дастаў лішні. Дасылаем №№ 6, 7, 8 і 9 поштай.

Прот. П. Сасноўскаму. Вы а. пратаіерэй пішыце, што ў Вас няма чытачоў на „Правасл. Беларусь". Каго-ж у Вас няма: ці праваслаўных, ці беларусоў?

А. І. Б—ю. Часопісь Вам высылаем акуратна трэбуйце з пошты. Усе недастаючыя нумары выслалі з маркамі. На жаль ня можам даслаць № 4 і 5, бо усе выйшлі.

Упраўл. Жыровецкага манастыра. „Прав. Бел." высылаем акуратна. Трэбуйце на сваей пошце. Цяпер даслалі з маркамі №№ 1 (7), 2 (8) і 3 (9).

## АБВЕСТКІ.



**РЭДАКЦЫЯ** просіць сваіх чытачоў прысылаць падпісную плату і трэбаваць „Праваслаўную Беларусь" на сваіх поштах. Высылаем акуратна. У мэце пашырэньня часопісі Рэдакцыя абнізіла плату з 2 зл. 50 гр. да 2 зл. за 1/4 года. Тым падпішчыкам, якія прыслалі ўжо за першую 1/4 гбда 2 зл. 50 гр. Гэтыя 50 гр. будуць залічаны на наступны квартал.



Рэдактар-выдавец: Л. Голад. Друк. ім. Ф. Скарыны, Людвісарская 1.